# КРУГЛЫ СТОЛ, ПРЫСВЕЧАНЫ 1150-годдзю ПОЛАЦКА (Мінск, 18 мая 2012 г.)

Кафедрай гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта 18 мая 2012 г. быў праведзены круглы стол, прымеркаваны да 1150-гадовага юбілея самага старажытнага горада Беларусі — Полацка. У яго праблемнае поле ўвайшлі розныя аспекты гісторыі горада, акрэсленыя храналагічнымі рамкамі X — пачатку XX ст. У навуковым пасяджэнні прынялі ўдзел выкладчыкі гістарычнага факультэта БДУ і Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, навукоўцы Інстытута гісторыі НАН Беларусі, супрацоўнікі Рэспубліканскага інстытута вышэйшай школы.

У прывітальным слове дэкан гістарычнага факультэта *С. М. Ходзін* падкрэсліў важнасць навуковага пасяджэння ў шэрагу іншых, якія ў 2012 г. праводзіць факультэт. Юбілей Полацка з'яўляецца яшчэ адной нагодай успомніць пра яскравую і адметную гісторыю гэтага горада, якому належыць выключная роля ў станаўленні беларускай дзяржаўнасці.

Тэмай выступлення *А. І. Дзярновіча* сталі агляд і інтэрпрэтацыя звестак скандынаўскіх пісьмовых крыніц IX—XIII стст. па гісторыі Полацка і Беларусі. Некаторыя з гэтых звестак носяць легендарны характар: напрыклад, паведамленне пра паход войска Ацілы на Полацк, які скончыўся ўзяццем горада ў выніку працяглай аблогі і штурма. Аднак многія звесткі скандынаўскіх саг могуць быць выкарыстаны і як важная гістарычная крыніца па ранняй гісторыі Полацка, а таксама іншых гарадоў Усходняй Еўропы. Сярод гэтых саг асабліва вылучаецца сага пра Тыдрэка Бернскага, у якой дадзена апісанне ўмацаванняў Полацка — унікальнае ў параўнанні з апісаннем іншых гарадоў Старажытнай Русі.

Ролі скандынаваў у гісторыі Полацка было прысвечана і яшчэ адно выступленне — *М. М. Самонава* спынілася на праблеме родавага і геаграфічнага паходжання першага гістарычна вядомага полацкага князя Рагвалода, а таксама заснавальніка горада Турава князя Тура, постаць якога ў беларускай літаратуры разглядаюць часцей за ўсё як легендарную. На падставе аналіза разнастайных скандынаўскіх і старажытнарускіх крыніц яна прыйшла да высновы, што Рагвалод (сканд. Ragnvaldr) і Тур (Thurir) паходзілі, хутчэй за ўсё, з вобласці Мёр у Нарвегіі і маглі належаць да рода мясцовага ярла Рогнвальда Эйстэйнсона.

*С. П. Емяльянаў* разгледзеў магчымыя крыніцы сюжэта, зафіксаванага ў вядомым летапісным паведамленні 1092 г., дзе гаворка ідзе пра загадкавыя падзеі ў Полацку. На думку даследчыка, гэты летапісны запіс, у якім паведамляецца пра збіццё мерцвякамі («навьем») жыхароў Полацка, стаў водгукам старажытнага германскага міфа пра дзікае паляванне. Таму гэты летапісны запіс не можа быць выкарыстаны для характарыстыкі наўяў у беларускай і старажытнарускай міфалогіі.

Крыніцазнаўчаму пытанню было прысвечана і яшчэ адно выступленне. Дацэнт кафедры гісторыі Расіі *С. М. Цемушаў* спыніўся на летапісных запісах 1159—1162 гг., якія, як вядома, падрабязна выкладаюць падзеі барацьбы за Полацк паміж прадстаўнікамі розных галін мясцовага княскага рода — Рагвалодам Барысавічам і менскімі Глебавічамі. На думку дакладчыка, насуперак распаўсюджанаму меркаванню на сённяшні дзень не існуе важкіх доказаў полацкага паходжання гэтых летапісных фрагментаў. Наўрад ці яны ўзніклі таксама ў Чарнігаве. Найбольш верагодным месцам іх стварэння С. М. Цемушаў лічыць Смаленск ці Кіеў.

Малавядомай постаці царкоўнай і грамадска-палітычнай гісторыі Русі XIII ст. — спачатку полацкаму, а пазней першаму цвярскому епіскапу Сімяону — прысвяціў свой даклад *В. А. Варонін*. Абазначыўшы асноўныя вехі яго дзейнасці ў Полацку і Цвяры, выступоўца больш падрабязна спыніўся на звестцы, згодна з якой Сімяон паходзіў з рода полацкіх князёў. Нягледзячы на тое, што гэта паведамленне ўпершыню з'явілася ў вядомых нам пісьмовых крыніцах толькі ў 60-х гг. XVIII ст., яно заслугоўвае ўвагі і можа адпавядаць гістарычнай рэчаіснасці.

У сваім выступленні *Ю. Л. Казакоў* разгледзеў асноўныя рысы канфесійнага становішча ў Полацкай зямлі ў 2-й палове XVI ст. Абазначаная эпоха стала пачаткам контррэфармацыі ў Вялікім Княстве Літоўскім. Адначасова на Полаччыне, як і ў іншых абласцях дзяржавы, пагоршылася становішча праваслаўнай царквы, на што паўплывалі як аб'ектыўныя, так і суб'ектыўныя фактары. Да ліку першых належала разбуранасць Полацкага ваяводства ў выніку Лівонскай вайны. Да суб'ектыўных фактараў трэба аднесці практыку раздачы «духоўных хлябоў», якую вялікія князі літоўскія асабліва актыўна выкарыстоўвалі пачынаючы з 60-х гг. XVI ст., а таксама неадукаванасць праваслаўнага духавенства.

*У. А. Падалінскі* прадставіў свае напрацоўкі па праблеме прадстаўніцтва Полацкага ваяводства на соймах Рэчы Паспалітай у апошняй трэці XVI ст. Полацкімі пасламі на соймы, як правіла, абіралася дробная і ў меншай ступені сярэдняя мясцовая шляхта з нязнатных родаў. У этнічным плане дамінавала шляхта беларускага паходжання, а канфесійная прыналежнасць паслоў была неаднароднай. Інтарэсы Полацкага ваяводства на соймах прадстаўлялі асобы, якіх можна смела аднесці да рэгіянальнай палітычнай эліты. Актыўная парламенцкая дзейнасць спрыяла палітычнай кар'еры шляхціца як на лакальным, так і на агульнадзяржаўным узроўні. Пытанні існавання розных груповак і распаўсюджанасці пратэкцыяніцкіх адносін сярод шляхты, а таксама іх уплыву на фарміраванне соймавай рэпрэзентацыі Полацкага ваяводства ў канцы XVI ст. патрабуюць далейшага вывучэння.

У сваім выступленні *А. Р. Дзянісава* прапанавала спробу сістэматызацыі крыніц, а таксама агляд гістарыяграфіі па праблеме гісторыі полацкіх праваслаўных манастыроў XII—XVII стст. На яе думку, крыніцы па праблеме дастаткова разнастайныя, аднак галоўнымі цяжкасцямі ў працы з імі з'яўляюцца іх фрагментарная захаванасць і нераўнамернае размеркаванне ў часе — раннія крыніцы надзвычай рэдкія. Нягледзячы на наяўнасць значнай літаратуры па праблеме, дзейнасць полацкіх праваслаўных манастыроў яшчэ не стала прадметам спецыяльнага даследавання гісторыкаў.

*У. А. Сосна* звярнуў увагу калег на гістарычны лёс полацкіх езуіцкіх сялян. На момант уключэння Полацкага ваяводства ў склад Расійскай імперыі тут было найбольш сялян, якія належалі ордэну езуітаў. У 1820 г., калі езуіты былі выгнаны з Полацка, паезуіцкія сяляне былі перададзены ў казённае ведамства. Была праведзена рэвізія паезуіцкіх маёнткаў. У далейшым палітыка расійскай дзяржавы ў дачыненні да гэтых сялян нічым не адрознівалася ад палітыкі, якую яна праводзіла ў дачыненні да іншых дзяржаўных сялян. У прыватнасці, у гэтых вёсках была праведзена рэформа Кісялёва.

Тэмай, на якой спыніла сваю ўвагу *І. Л. Грыбко,* стала ўвядзенне гарадскога самакіравання ў Полацку ў ходзе рэалізацыі гарадской рэформы 1870 г. у Расійскай імперыі. На тэрыторыю Беларусі рэформа была пашырана крыху пазней, законам ад 29 красавіка 1875 г. Новыя ўстановы самакіравання ў Полацку пачалі сваю дзейнасць 4 мая 1879 г. Нягледзячы на тое, што выбарчым правам магла скарыстацца толькі абмежаваная колькасць жыхароў, выбары ў новыя ўстановы самакіравання ў Полацку вызначыліся упартай барацьбой за месцы ў думе і вялікай зацікаўленасцю ў справах горада. Асноўныя клопаты полацкай думы былі засяроджаны на пытаннях адукацыі, добраўпарадкаванні горада і паляпшэнні яго санітарнага стану. У вырашэнні гэтых і іншых праблем установы самакіравання дасягнулі істотных поспехаў.

Амаль што кожнае выступленне вызывала зацікаўленасць удзельнікаў круглага стала, што садзейнічала актыўнаму абмеркаванню выказаных фактаў і падсумаванняў. Падводзячы вынікі пасяджэння, яго старшыня загадчык кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў *Ю. Л. Казакоў* зрабіў заяву, што кафедра намерана і ў далейшым рэгулярна праводзіць абмеркаванні, прысвечаныя найважнейшым падзеям айчынай гісторыі.

**В. А. Варонін,** дацэнт кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў БДУ